


*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі! Францішак БАГУШЭВІЧ*

# НАША СЛОВА

№ 37(47) ● 30 КАСТРЫЧНІКА— 5 ЛІСТАПАДА 1991 г. ●

Штотыднёвік Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны
Кошт 10 кап. (па падпісцы — 5 кап.)



*Гаварыў камбат па-беларуску.*

Стар. 2

Менск вачамі выгнанніка.

Стар. 3

*«Кожны ведай сваё дзела,
Знай, за праўду крэпка стой».*

Стар. 4.


## Поступ тыдня

ПАДПІСАНА ДЭКЛАРАЦЫЯ АБ ПРЫНЦЫПАХ ДОБРАСУСЕДСКІХ АДНОСІН ПАМІЖ РЭСПУБЛІКАЙ БЕЛАРУСЬ І ЛІТОЎСКАЙ РЭСПУБЛІКАЙ. АБОДВА БАКІ ПРЫЗНАЛІ СВАЮ ПРЫХІЛЬНАСЦЬ ДА ПРЫНЦЫПАЎ ХЕЛЬСІНСКАГА ПРАЦЭСУ, У ТЫМ ЛІКУ НЕПАРУШНАСЦІ ГРАНІЦ. Дакументам прызнаецца этнічная, культурная і моўная самабытнасць беларусаў у Літве і літоўцаў у Беларусі, гарантуюцца ўсе ўмовы для развіцця гэтай самабытнасці. Ёсць надзея, што беларусы ў Літве, а літоўцы ў Беларусі будуць карыстацца роўнымі правамі і свабодамі, а таксама мець адпаведныя магчымасці ў адукацыі, культуры, навуцы і рэлігіі.

ДЭКЛАРАЦЫЯ МОЖА СТАЦЬ АСНОВАЙ ДЛЯ ПАДПІСАННЯ ДАГАВОРА ПАМІЖ БЕЛАРУССЮ І ЛІТВОЙ.

ПРАЦЯГВАЮЦЦА ДЭБАТЫ Ў БЕЛАРУСКІМ ПАРЛАМЕНЦЕ. Па многіх праектах законаў, у тым ліку аб прыватызацыі дзяржаўнай уласнасці, аб сацыяльнай абароненасці інвалідаў, аб святах, дэпутаты так і не прыйшлі да згоды. Ці не таму, што пытанні яшчэ не зусім «выспелі» і «не «абкатаны» па-сапраўднаму ў грамадстве?

***ПЕРШЫ ГЕНЕРАЛЬНЫ ПРАКУРОР У ГІСТОРЫІ СУВЕРЭННАЙ БЕЛАРУСІ ЛІЧЫЦЬ, ШТО Ў РЭСПУБЛІЦЫ СТВОРАНЫ СТРУКТУРЫ АРГАНІЗАВАНАЙ ЗЛАЧЫННАСЦІ,** ёсць добра эшаланіраваная сістэма са сваім кіраўніцтвам, філіяламі, размеркаваннем функцый, і гэта, на яго думку, уяўляе вялікую небяспеку як грамадскую, так і палітычную. Шкада толькі — ніхто не можа выявіць гэтую структуру.*

Дужа скупы не толькі на тавары і прадукты, але і на эканамічную інфармацыю беларускі ўрад паведаміў: у трэцім квартале г. г. пазбегнулі падзення вытворчасці ў прамысловасці, а ў вёсцы за год яе зніжэнне склала ўсяго 4 працэнты. Некаторыя кіраўнікі расцэньваюць гэта як пералом у эканоміцы. Што ж, зіма пакажа...

*Родную мову бароняць вайскоўцы*

# ПАТРЫЯТЫЗМ — ЗАМЕСТ ПРАГМАТЫЗМУ




На здымку: дэлегаты першага арганізацыйнага з'езда Беларускага згуртавання вайскоўцаў.
Фота Уладзіміра ПАНАДЫ.

У Доме літаратара 12—13 кастрычніка адбыўся першы арганізацыйны з'езд Беларускага згуртавання вайскоўцаў, створанага 20 жніўня, у час путчу ГКЧП. Афіцэры-беларусы, а таксама прадстаўнікі іншых нацыянальнасцей, якія служаць у Беларускай ваеннай акрузе, два дні абмяркоўвалі пытанні ваеннай рэформы. Прыняты Статут БЗВ і Зварот да Вярхоўнага Савета, палітычных партый і народа Беларусі. Нельга было без хвалявання слухаць словы Звароту: «...Мы, беларускія вайскоўцы, сумленна служылі краіне пад назвай Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік, таму што гэта была і наша краіна. Зараз, калі Савецкі Саюз распадаецца, кожнаму трэба рабіць свой выбар. Дзесяткі тысяч беларусаў вайсковая служба раскідала па велізарных абшарах Еўропы і Азіі. Розны ў нас лёс, розныя палітычныя погляды, але ёсць адно, што яднае нас усіх ад салдата да генерала,— гэта шчырая і незгасальная любоў да сваёй Бацькаўшчыны. Дзе б мы не праходзілі службу, але праз гады і далячыні нясём у сэрцы часцінку маці-Беларусі.

Мы заяўляем, што былі і заўсёды будзем са сваім народам, і калі трэба, то гатовыя прысягнуць на вернасць нашаму бел-чырвона-беламу сцягу».

Мэтай сваёй Беларускае згуртаванне вайскоўцаў абвясціла прапаганду ідэі стварэння нацыянальнага войска Рэспублікі Беларусь.

Адметна, што ўдзельнікі з'езда з болем і трывогай гаварылі пра адсутнасць нацыянальнай самасвядомасці ў беларусаў. Мажліва, такой гаворцы паспрыялі эмацыянальныя выступленні гасцей — народных дэпутатаў Рэспублікі Беларусь ад апазіцыі Вярхоўнага Савета Алега Трусава і Зянона Пазьняка, галоўнага сакратара ТБМ імя Ф. Скарыны Яўгена Цумарава, старшыні Рады Беларускай Сацыял-дэмакратычнай Грамады Міхася Ткачова, намесніка старшыні Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына» спадара Дзмітрыева і іншых.

— У апошні час усё мацней умацоўвае свае пазіцыі касмапалітызм, у тым ліку і сярод беларусаў,— сказаў дэлегат з'езда лейтэнант Нагнібяда, які прыехаў з Маскоўскай ваеннай акругі. Калі краіна знаходзіцца на парозе развалу, людзьмі кіруе не клопат пра нацыянальную свядомасць, дзяржаўную незалежнасць, а звычайны прагматызм. Наша будучае войска павінна з першага дня свайго існавання дбаць пра родную мову, культуру, гістарычную спадчыну.

*(Працяг на 2-й с.).*

*Але!*

# *«Неперспектыўнымі» больш не будзем!*

Я, каб пазнаёміцца, купіў у кіёску некалькі нумароў газеты пад назвай «Рэспубліка», якая выдаецца на васьмі старонках. Якое ж было здзіўленне, калі ўбачыў, што толькі адна сёмая (і то няпоўная) паласа надрукавана на беларускай мове. І гэта ў той час, як усе людзі добрай волі змагаюцца за пашырэнне не дзе-небудзь, а ў Беларусі беларускага слова.

А цяпер вось стала зразумела і ўся «палітыка» газеты «Рэспубліка». Дапамог разабрацца ў прычыне рускамоўнасці сам галоўны рэдактар Мікалай Кернога, даўшы інтэрв'ю раённай газеце «Слонімскі веснік». Вось што ён сказаў на заканчэнне:

«Беларуская рэспубліканская газета не павінна выдавацца на рускай мове (грэх гэта, не страчана, дзякуй Богу, свая). Але і выданне яе на паўзабытай беларусамі роднай мове перспектывы немае: газеты ж выпускаюць для таго, каб іх чыталі...»

Ну і ну! Значыць, «Рэспубліку» рэдактар наўмысна прызначае рознай ступені наменклатурнай начальніцкай эліце, у нядаўнім — партакратам? Тым, хто не можа (а хутчэй — не жадае) прамовіць беларускага, народнага слова, бо яно не для начальніцкіх вуснаў. І такія газеты, і тыя, хто за імі стаіць, хочуць зрабіць тое, што партакраты зрабілі з «неперспектыўнымі» беларускімі вёскамі.

Аднак гэты нумар ім не ўдасца!

**Іван МІСКО,**
**член Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны.**
**г. Слонім.**

*Весткі з Аўстраліі*

## Дэманстрацыя ў падтрымку незалежнасці Беларусі

**8 верасня 1991 года ў Мельбурне (Аўстралія) прайшла дэманстрацыя ў падтрымку незалежнасці Беларусі, абвешчанай 25 жніўня 1991 года Вярхоўным Саветам рэспублікі. У мітынгу ўдзельнічалі каля 4 тысяч беларусаў, украінцаў, харватаў. З нацыянальнымі сцягамі, выявай «Пагоні» і плакатамі «Сапраўдная дэмакратыя — гэта прызнанне сёння незалежнасці Беларусі» ўдзельнікі прайшлі па галоўнай вуліцы горада да плошчы, дзе адбыўся мітынг. На мітынгу са зваротам да ўрада Аўстраліі аб прызнанні Беларусі як незалежнай дзяржавы выступіў старшыня Федэральнай Рады Беларускіх Арганізацый у Аўстраліі Яўген Груша і іншыя дзеячы беларускай эміграцыі.**

**Л. БАРШЧЭЎСКАЯ.**

*Паэзіі радок чароўны*

*Іван* ЧЫГРЫН

## Гэта мова...

(ІРАНІЧНАЕ)

Не святочная — у святы,
Не будзённая — у будні,
Не бяруць яе ў салдаты,
Не цікавяцца прыблуды.

Мова гэта не ажурная,
Мова гэта некультурная.
Мова гэта не ракетная,
Мова гэта непрыкметная.

На палетку — невясёлая,
Ва ўстанове — не пісьмовая.
У магазіне — не мабільная,
Не метро-аўтамабільная.

На заводзе — непатрэбная,
Мова гэтая — няхлебная.
З мовай іншаю няроўная,
Мова гэта беспрацоўная.

Нат цярплівы наш урад
Мове гэтакай не рад.
З ёй ні дома, ні на людзях
Анідзе сваім не будзеш.

Мова гэта непрыгожая.
Гэткую найлепш пад ножык!
Камунізм не пабудуеш
З мовай гэткай — так звякуеш.

*Міра* ЛУКША

* * *

*ёсць такая пара перад*
*ад'ездам...*
Н. Артымовіч.

час
сухой скуры гарачых далоняў
кропляў горычы нікаціну
на прыкушаных вуснах

зоркапад слоў
маўчанне

затрымай свой профіль
на мурах горада
яны тут застануцца
а толькі мы бачым
яны ж жывыя
і толькі чакаюць
каб заўважыць іх рух
хітрыя зіркі вокнаў
крананне часам
рэбраў жалезабетону
пяшчотнае нахіленне
сцен да паветра
над сцежкамі ў прасторы
трактамі лёсаў людзей
а тыя нават не заўважаць
калі і зрок іх разаб'ецца
аб камень колер чысты гук
абрыс і глыбу цела атам

ты бачыш

рассцілаю вачэй тысячу
а сцяна разумее
прагу сталасці
неспакой акамянець

крышацца год і хвіліна
— порах на языку
слова — сліна і цэмент
цішыня

ці ведаеш

сёння
уцякаеш у свае сцены
нахіленыя дружна над табой
кажаш: мой мур мой выбар

слова не камень
а як косць жывая
ў горле

крычым у натоўпе на вакзале
а можа гэта цішыня
як на аэрадроме
ў нас разрываецца

адно ўжо толькі супольнае
хвіліна перад дарогай

і ніхто не заўважыць
разбіўся яшчэ адзін пейзаж
адным начным метэарытам.

г. Беласток.



НА ЗДЫМКУ: перад выраем. Фота В. БЫСАВА.

*Васіль* СУПРУН

## Краю мой!

Скажы, абяздолены, гнаны, абкрадзены,
Колькі яшчэ Ты здалееш маўчаць?
Колькі цярпення Табе Богам дадзена?
Жыць мо пара распачаць?
Можа пара свае плечы магутныя
Выпрастаць, даўшы надзеям узлёт?
Час не чакае і путы пакутныя
Рве цярплівы народ.
Хопіць, нарэшце, сябе абдзяляючы,
Жыць у наймах у суседзяў-паноў.
Помні, што долі шчаслівай чакаючы,
Ганьбіш Ты мужных сыноў.
Толькі скажы, і пад сцяг твой яднаючы
Станем сцяною мы ўсе, як адзін.
Славу былую ў дзядоў пераймаючы,
Ўстанем!

Ты толькі вядзі!

Ганарар за верш ахвярую на помнік Кастусю Каліноўскаму ў Менску.

*Леанід* ПРАНЧАК

## Каб нам не анямець...

Як ручаёк лясны ў нячэпанай цішы
Звініць і ўдаль плыве, як пошум спелай нівы,
Як зорны перазвон, мелодыя душы —
Маёй Айчыны спеў — высокі і праўдзівы.
Успомнім, хто мы ёсць, што мы — гаспадары!
Каб голас свой пачуць у брацкім перазове,—
Давайце гаварыць, давайце гаварыць
На роднай, на сваёй, на беларускай мове.
У час ліхіх нягод, калі трасецца свет,
Так лёгка страціць нам і веру, і надзею.
Ды зразумеюць нас — Радзіма і Сусвет
Тады, калі сябе мы самі зразумеем.
Любоўю Беларусь мы здолеем сагрэць
У еднасці людской, а не ў зацятай змове.
Каб не памерці нам і каб не анямець,—
Давайце гаварыць на беларускай мове!

## Абуджэнне



Клопатам пра гістарычнае адраджэнне роднай Беларусі жывуць настаўнікі і вучні Куцькаўскай школы. У гэтым калектыве ўадначассе дбаюць і пра мову, і пра культуру, і пра нацыянальную самасвядомасць.

Яскравы прыклад — нядаўняе свята кветак. Вучні праявілі вялікую фантазію пры стварэнні розных кампазіцый. Назвы некаторых букетаў гавораць самі за сябе: «Сінявокая Беларусь», «Вечная памяць»... Кожны аўтар даваў сваім творам падрабязнае тлумачэнне.

Асабліва пастаралася Марыя Драўніцкая. З пялёсткаў белай і чырвонай вяргінь дзяўчынка «намалявала» бел-чырвона-белы сцяг. А пасярод яго змясціла «Пагоню». Кампазіцыю назвала: «Жыве Беларусь!»

Міхась ЧАРНЯЎСКІ.
Мядзельскі раён.

НА ЗДЫМКУ: Марыя Драўніцкая са сваёй кампазіцыяй.
Фота аўтара.

*Пішам, вымаўляем*

## Чытай сам сабе

«Век жыві, век вучыся»,— кажа народная прыпавесць. Што і казаць — слушная прымаўка. Да ўсіх момантаў жыцця прыдатная. Асабліва да духоўнай сферы. Тут сапраўды трэба штодня рупіцца ды рупіцца. Мо толькі тады можна падтрымаць свой прафесійны ўзровень. На жаль, не ўсе сённяшнія журналісты ды пісьменнікі трымаюцца гэтай мудрай парады. Сказаць такое ў мяне ёсць усе падставы.

Час ад часу ў нашых газетах, па радыё і тэлебачанні можна прачытаць і ўчуць такія выразы: «Яшчэ б», «Як доўга вы будзеце ў дарозе?» «Як доўга цябе чакаць?» Па-беларуску ж гэта будзе: «Дзіва што!», «Ці доўга вы будзеце ў дарозе?», «Колькі вы будзеце ў дарозе?», «Ці доўга вас чакаць?»

Можна прачытаць або ўчуць і такое: «Чытай пра сябе». Калісьці прафесар Янкоўскі іранізаваў з тых, хто так гаварыў ці пісаў: «І чым жа ты так вылавіўся, што пра цябе ў кнізе напісалі?» Але не кожны разумее гэтую іронію, даводзілася тлумачыць, што рускае выслоўе «читать про себя» перадаецца пабеларуску «чытай сам сабе», «чытай вачыма, не замінай іншым». Так гавораць беларусы.

А знешне падобнае беларускае спалучэнне з рускім «читай про себя» ў беларускай мове мае толькі адзін сэнс: падказку, параду другому субяседніку пачытаць, калі пра яго што-кольвек напісана ў кнізе ці газеце.

Вось такія нюансы блізкародных моў. Шмат чаго ў іх гучыць нібыта аднолькава, а разуменне рознае.

Уладзімір СОДАЛЬ.

*Уражанні*

КАЛІ я пакінуў яе ў 17 гадоў, а пабачыў у 64 — прычым пабачыў вельмі коратка, спешліва — дык уражанні, зразумела, будуць і глыбокія — на рэшту жыцця — і павярхоўныя. Некаторыя з іх вельмі выразныя, вострыя, амаль фізічныя. Першнаперш — адчуванне задаволенасці: споўнілася нарэшце жаданне, што было ўжо зусім пахаванае, яшчэ раз пабачыцца з роднымі, з Краем, а найбольш з той малой Бацькаўшчынай, якая засталася ў снах, пра якую кажа песня — «забыць цябе не маю сілы».

Менску я ніколі не бачыў, ні старога ні новага. Гэта было маё першае спатканне са сталіцай. І выйшла штосьці накшталт каханя з першага пагляду. Пасля праезду праз Маскву, дзе наш гасцінны і прадпрымальны суродзіч прафесар Яўген Шыраеў абвёз нас з братам па цэнтры горада перад тым як пасадзіць у цягнік на Баранавічы (брат Аркадзь, які жыве ў Баранавічах, прабыўшы месяц у Нью-Йорку, вёз мяне паказваць Бацькаўшчыну), Менск паўстаў перада мной чысцейшым за савецкую сталіцу, зелянейшым, прасторнейшым і мілейшым, бо мяне чакала ў ім, я прадчуваў гэта, столькі добрых, сардэчных людзей. Калі я пагляджу на Менск праз акно гасцініцы «Юбілейная», у якой мяне размясцілі як госця АН Беларусі, удзельніка Міжнароднага кангрэса беларусістаў, калі пракаціўся па ягоных праспектах і плошчах з аўтамабіляў Аляксея Кудрэйкі і Сяржука Сокалава-Воюша, на памяць прыходзілі словы майго брытанскага сябра Гая Пікарды, які пісаў нядаўна ў «Беларусе», што сваім выглядам Менск можа паспрачацца з любой еўрапейскай сталіцай.

Затое Баранавічы і мой родны Мір, дзе давялося правесці па адным дні без начавання, прыгнялі мяне сваім вонкавым выглядам, сваёй недагледжанасцю, што выплывае з відавочнай нястачы матэрыяльных сродкаў.

Асабліва жахнуўся я ад Міра. Мястэчка, якое засталося ў маёй памяці менш-больш добраўпарадкаваным, з брукаванымі вуліцамі, базарнай плошчай, акружанай крамамі, з царквой і касцёлам, прызямлілася цяпер змізарнелым, зморшчаным, вялікім сялом з калдобістымі вуліцамі, па якіх аўтамабілісту трэба ўмела выкручвацца, каб праехаць, не засеўшы ў яме. Усё, што засталося ад «майго» Міра, гэта цудоўны замак, які гадамі ўжо стаіць апутаны рыштаваннямі, чакаючы разам з вуліцамі мястэчка рэстаўрацыі. Але мастоў праз рэчку Міранку, па якіх ехалася ў Стоўбцы і ў Гарадзею, я ўжо не пабачыў, іх няма; няма става, млына, і сама рэчка ператварылася ў зарослую канаву.

Тры няшчасці звалілісь на мой Мір: вайна, пажар і сацыялістычная безгаспадарнасць. Мае сваякі, з якімі сустрэча была такая радасная, такая прыемная, чуліся, відаць, не зусім добра, калі я гаварыў пра іхнія, так жудасна занядбаныя, вуліцы. Газ праводзілі, электрычнасць, тлумачылі мне мае мілыя родзічы. Некалі заасфальтуюць. Некалі...

У Менску пасля заканчэння кангрэса беларусістаў была нагода пазнаёміцца і пагутарыць з міністрам культуры сп. Вайтовічам. Гаварылі з ім пра Мірскі замак, пра Мір.

Як можна аднаўляць замак, не парадкуючы мястэчка? — пытаўся я ў міністра. Замак мог бы быць прываблівым турыстычным аб'ектам, генератарам валюты. Але ж яго нельга паказваць замежным наведнікам, калі побач з ім — такая запушчанасць, такое гаспадарчае нядбальства і нявага да жыхароў мястэчка.

Беларусь мае цудоўныя краявіды. У Мір мы ехалі з Менску «алімпійкай», аўтастрадай, пабудаванай да Алімпіяды 1980 года. Вёз нас сваім аўтамабілем гасцінны і самаахвярны прыяцель, паэт Сяргей Панізнік. Была нядзеля, Сёмуха, сонечны дзень. Паабапал аўтастрады — раскошныя краявіды, вачэй не адарваць: палеткі, лясы, гаі ва ўсіх адценнях зялёнай гамы, усё абмытае лагодным сонцам і атуленае лёгка блакітнай сінявой неба. Глядзіш і думаеш: які патэнцыял прыгажосці і багацця затоены ў гэтых прасторах! Калі б гаспадарыла на іх уласная, свабодная рука...

Сустрэча на Бацькаўшчыне была не толькі з ландшафтам фізічным, але і з культурным, духоўным. І тут напрошваецца паралель да мірскіх вуліц — культурныя калдобіны, запушчанасць, калецтва нацыі. Сваё занядбанае і чужое не апанаванае. Раздвоенасць у мове, у культуры, у псіхалогіі, у светапоглядзе. У адрачэнні, адчужэнні ад родных каранёў — міжвольная знявага памяці продкаў, якія змагаліся за іншыя, за свае ідэалы, за беларушчыну — пакутавалі за яе пад Польшчай, расплочваліся жыццём пад бальшавікамі і пад немцамі. Ляжыць недзе ў Курапатах і мой дзядзька Аляксей, рэдактар віленскай газеты «Беларуская Справа», які ўцёк з польскага пекла і трапіў у бальшавіцкае...

На шчасце, не ўсе паддаліся культурнаму нявольніцтву. Довадам гэтаму сярод усяго іншага і Міжнародны кангрэс беларусістаў, што адбыўся ў Менску 25—27 траўня і які стаўся вехавой падзеяй ў сённяшнім працэсе беларускай кансалідацыі, гуртавання адраджэнскіх сілаў. Міжнародны кангрэс беларусістаў паказвае на паглыбленне гэтага працэсу, паказвае, што Беларусь усё мацней заяўляе аб праве на сваю багатую гістарычную спадчыну, на суверэннае права распараджацца ўсім сваім дабром. Нацыя ўсё больш пачынае разумець, што толькі такім чынам можна дамагчыся доўгачаканай дэмакратычнай свабоды, матэрыяльнага і культурнага дабрабыту.

(Газета «Беларус», № 380, 1991 г., Нью-Йорк).

*Янка* ЗАПРУДНІК

## Сустрэча з Бацькаўшчынай

## Спачуванне сям'і Кажаневічаў

Рэдактару газеты «Наша слова»
Спадару Эрнэсту Ялугіну,
г. Менск, Беларусь

Вельмі паважаны спадар Ялугін!

У засмучэнні перасылаю чэк на 10 фунтаў стэрлінгаў на газету «Наша слова». Гэта замест кветак на свежую магілу светлай памяці Любы Кажаневіч з вёскі Пінкавічы Пінскага раёна. Адышла ў вечнасць на 33-м годзе жыцця (лейкоз), пакінуўшы мужа Уладзіміра і дачушак Марыну (12 год) і Надзю (8 год).

Гэтым хачу перадаць мае шчырыя спачуванні для яе сямейкі. Яшчэ адна ахвяра чарнобыльскай катастрофы для беларускага народа.

З пашанай
Хведар КАЖАНЕВІЧ.
Англія.

Калектыў рэдакцыі газеты «Наша слова» далучае свой голас сардэчнага спачування сям'і і блізкім нябожчыцы, добрай і працавітай беларускай маці — спадарыні Любы Кажаневіч. Жадаем мужнасці і моцы яе мужу. Каб змог выгадаваць сваіх дзетак здаровымі і добрымі гаспадарамі роднай Беларусі.

*Конкурс на гімн Беларусі*

# Успомнім верш Янкі Купалы!

*ТБМ Акадэміі навук Беларусі рэкамендуе гімнам Беларусі верш М. Багдановіча «Пагоня», які мае сувязь з гербам. Верш М. Краўцова «Мы выйдзем шчыльнымі радамі» мае сувязь са сцягам. Верш Я. Купалы «Гэй, наперад!», канкрэтнай сувязі такой не мае, але ён не менш выражае мінулае і сучаснае жыццё народа Беларусі, яго думы і жаданні. Я ніколі не забуду, як яшчэ ў Заходняй Беларусі «пад Польшчай» вельмі часта моладзь спявала гімн «Гэй, наперад!» пасля грамадскіх мерапрыемстваў, часцей усяго на вечарынах і да т. п. Падпольшчыкі тады ўжо гэтую песню называлі беларускім гімнам.*

*З павагай* В. ЗАБАЙЛОВІЧ.
*г. Дуброўна.*

Гэй, наперад, покі сэрца
Б'ецца, рвецца на прастор,
Годзе млеці ў паняверцы;
Гэй, да сонца! Гэй, да зор!

Хай бацькі стагналі ўчора,
Йшлі на той свет без пары;
Сёння ў нашай моцы гора,
Мы — жыцця гаспадары!

Думка ў думку, дружна, смела
Усе наперад грамадой!
Кожны ведай сваё дзела,
Знай, за праўду крэпка стой!

К новай долі шлях нам ляжа,
Як на небе Млечны шлях,
Слова, дум ніхто не звяжа,
Жыць, цярпець не будзе страх!

І не стане больш пакуса
Першых-лепшых з боку браць,
Славяніна-беларуса
Вечна ў лапці абуваць.

Дык наперад, покі сэрца
Б'ецца, рвецца на прастор,
Годзе млеці ў паняверцы!
Гэй, да сонца! Гэй, да зор!

1911 г.

## Лякарня чараўніцы Потахі

**ВАЛЯР'ЯН ЛЕКАВЫ.** Перш за ўсё народ лічыць валяр'янавыя карані з карэнішчамі сродкам, які супакойвае нервы, але, акрамя таго, і сродкам, што садзейнічае страваванню, «разаграваé» страўнікава-кішэчны тракт, гоніць газы, глістоў.

Спіртавую настойку, ці так званыя валяр'янавыя кроплі, рыхтуюць так: 1 частка дробна парэзаных каранёў валяр'яну заліваюць 5 часткамі 70° спірту, г. зн. моцнай гарэлкай, і ў цёплым (да 25° С) месцы настойваюць цэлы тыдзень. Вадкасць зліваюць, у яе адціскаюць рэшткі, даюць адстаяцца і працэджваюць. Унутр даюць ад 15 кропляў да 3 мл у дзень.

Боль жывата хутка сунімецца, калі на жывот кінуць гаршчок ці чэрава моцна пацерці тою сукенкаю, якую насіў нябожчык. (Нікіфароўскі).

Эфірную настойку па вёсках робяць так: 1 частку дробна парэзанага (у дробны парашок) валяр'янавага кораня настойваюць 4 сутак у 4 частках 90° спірту, потым даліваюць 2 часткі эфіру і яшчэ настойваюць 3 сутак. Вадкасць зліваюць, у яе адціскаюць рэшткі, даюць адстаяцца і працэджваюць. Атрымліваецца празрыстая жаўтаватая вадкасць.

Водную настойку з расцёртых валяр'янавых каранёў (замочваюць 5 гадзін у цёплай вадзе) у дзённай дозе 5—15 г на 180 г вады лічаць добрым сродкам, які супакойвае, пры болі ў жываце, нервовых узрушэннях, спазмах у маткі, пры бяссонніцы і г. д.

Немаўлятам пры болі ў жываце (гэты боль пазнаюць, калі дзіця трэ ножкай аб ножку, падгінае каленцы да жывоціка і хваравіта плача) даюць па чайнай лыжцы штогадзінна воднай настойкі валяр'янавага кораня і лічаць, што гэта гоніць газы і крыху паслабляе.

Пяройдзеш праз круг — на твары будзе круг (лішай). (Раманаў).

Валяр'янавыя карані ўжываюць у розных сумесях траў і ў розных выпадках. Пры такіх выпадках, калі ў страўніку адчуваецца пустата, язык абкладзены, пабольвае галава, — п'юць па 3 шклянкі на дзень цёплага чаю з наступнай сумесі траў: 6 сталовых лыжак крываўніку кіпяцяць 10 мінут у 1 л вады, у гарачы адвар усыпаюць 1 сталовую лыжку палыну, 2 лыжкі перцавай мяты і 1 сталовую лыжку дробна парэзанага кораня валяр'яну. Параць паўгадзіны.

*Пытанне — адказ*

Хачу свайму сыну выпісаць беларускі дзіцячы часопіс ці газету, але не ведаю, што канкрэтна. Таму ці не маглі б Вы паведаміць, якія дзіцячыя выданні ёсць у нас на беларускай мове і на дзяцей якога ўзросту яны разлічаны?

Мяркую, зараз такія звесткі будуць карысныя ўсім чытачам «Нашага слова».

К. КУЗНЯЦОЎ.
г. Менск.

У рэспубліцы ёсць некалькі дзіцячых часопісаў, якія выходзяць на беларускай мове. Найперш трэба назваць «Бярозку». Яе з вялікай цікавасцю чытаюць школьнікі малодшага і сярэдняга ўзросту.

Не толькі разнастайны, але і займальны матэрыял вы знойдзеце для дашкольнікаў і малодшых школьнікаў у заўсёды прыгожа аформленым часопісе «Вясёлка». Сёння ён, дарэчы, апынуўся ў вельмі крытычнай сітуацыі. З-за адсутнасці паперы «Вясёлка» не выходзіла 4 месяцы. І толькі ў кастрычніку на сродкі, сабраныя кампазітарамі і мастакамі, а таксама пры дапамозе міністэрства культуры выйдзе шосты нумар. У будучым, як запэўніў Уладзімір Ліпскі, галоўны рэдактар «Вясёлкі», часопіс будзе выходзіць, калі нават паперу прыдзецца купляць у кааператараў па самых высокіх цэнах. Таму сёння кожны з нас павінен падтрымаць дзіцячы часопіс, афарміўшы на яго падпіску.

У апошнім квартале гэтага года выйдуць першыя нумары новага часопіса для дзяцей дашкольнага і малодшага школьнага ўзросту «Іралеска». Яго перыядычнасць — адзін раз на месяц. Кошт гадавой падпіскі — 7 руб. 20 кап. Індэкс — 74983.

З газет, якія друкуюцца на беларускай мове, можна назваць толькі «Піянер Беларусі». Цікавую старонку для дзяцей змяшчае таксама газета «Дзеці і мы». На ўсе гэтыя выданні можна падпісацца ў любым аддзяленні сувязі або «Саюздруку».

Л. БАРШЧЭЎСКАЯ.



НА ЗДЫМКУ: ансамбль «Міране». На пярэднім плане — рабочая Галіна Блашчаніца.

Фота Эдуарда КАБЯКА (БЕЛТА).

Ансамбль песні і танца «Міране» добра ведаюць у Баранавіцкім раёне. Яго выступленні цёпла сустракаюць не толькі рабочыя і служачыя конезаводакамбіната «Мір», дзе ён створаны, але і гледачы Менска і Брэста, Прыбалтыкі і Польшчы. Калектыў — удзельнік многіх фальклорных фестываляў, лаўрэат трэцяга Усесаюзнага аглядуконкурсу самадзейных артыстаў.

У рэпертуары «Міран» беларускія песні і танцы, якія бытуюць на Брэстчыне. У ансамблі каля сарака аматараў народнага мастацтва, сярод якіх паляводы, жывёлаводы, служачыя, рабочыя, настаўнікі.

*І смех і грэх*

## Дыялогі на вясковай лаўцы



— Шчаслівая ты, Жэнечка! Сын без вяроўкі ўгору лезе. І кватэру прыдбаў, і машыну, і дачу. З начальнікам — на адной назе. А мой во, хоць разумны і рабацяшчы, як ні вылузваецца са скуры, нічога ў жызні не дабіўся.

— Бо не таму вучыла. Папомні маё слова: і не дабецца! Характар мяняць трэба! Я свайму скрозь казала: глядзі, сыночак, ласкавае цялятка двух матак сасе, а паганае — ніводнай. Паслухаўся савету — дык і мае сёння. А твой жа яшчэ ў школе наравісты быў: дзе трэба лізнуць, дык ён гаўкае.

* * *

— Ну то хваліся, Маня, нябось унучка студэнткай стала?

— Дзе ты бачыла, Верачка! Усё блатам падшыта — не прабіцца... Але во паслухай, якую дзіця з таго інсцітута «навуку» прывезла.

Прэцца адзін чучмэк з бараном у аўтобус, а шафёр крык падняў: «Такую тваю... Ты куды барана цягнеш?» А той ў адказ: «Баран у інсцітуце застаўся, а я калым вязу».

* * *

— Што ты, Насця, Антолі благое зрабіла? Наўмбрніцу праклінала цябе ў магазіне. Языком малацiла, што цэпам лiтоўскім...

— А каб яна пад старасць косці грызла, скуляка гэная! Як яна ўжо мне спранявідзелася! Здэцца, каб прымела, у чыстым полі дзвярмі прышчаміла б!

* * *

— Толькі, бабкі, я на грошы ўзбілася, нявестачкі мае з сынамі ўмэнт злядзеліся! Як сенакос — хто хворы, хто заняты. Каровак адпасвіць — з абразаваннем, кажуць, стыдна. А як грошы ўчулі — тут як тут.

— Ты думаеш, толькі твае? Паўсюль дзеткі такія! Бацькі пазухі падзяруць, дзецям носячы, а дзеці — ад бацькоў цягнучы.

Учула Любоў ЛАМЕКА.

Можна выпісаць у любым аддзяленні «Саюздруку». Усяго за 5 рублёў 28 капеек 104 нумары ў год газеты

**«НАША СЛОВА»**

— Гэта інфармацыя аб культурным жыцці беларусаў у рэспубліцы і за мяжою.
— Арыгінальныя інтэрв'ю з неардынарнымі асобамі.
— Гісторыя. Радавод.
— Пытанні мовы.
— Літаратурныя навіны і многае іншае ў канцэнтраванай форме.

Наш індэкс: 63885.

## Адказ на крыжаванку-пераклад, змешчаную ў № 35

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 5. Бурштын. 6. Абалона. 9. Акурат. 12. Інець. 13. Мулкі. 14. Колік. 17. Пернік. 18. Рымар. 21. Гахне. 22. Увага. 23. Пасак. 26. Прылазнік. 27. Калматы. 28. Пяколак.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Буслянка. 2. Шынка. 3. Абцас. 4. Анучнік. 7. Аркуш. 8. Стыкавы. 10. Уцягненне. 11. Помарака. 15. Разны. 16. Попыт. 19. Цабэрак. 20. Пажытак. 24. Араты. 25. Пісяг. 29. Каваль. 30. Газа.



Наш адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13.
Тэлефон рэдакцыі: 33-17-83.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара неабавязкова можа адпавядаць меркаванню рэдакцыі.
Рукапісы рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

МВПА імя Якуба Коласа.
Мінская паліграфічная фабрыка «Чырвоная Зорка».
Наклад 5.058 паасобнікі. Зак. 2465. Індэкс 74975.